# Наша Доля

Рэспубліканская штотыднёвая газета
Выдаецца з верасня 1990 г.

№ 34 (143)
25 жніўня 1994 г.
Кошт у розніцу — 20 руб.


## У нумары:



## О МИНИМАЛЬНЫХ ПОТРЕБИТЕЛЬСКИХ БЮДЖЕТАХ ДЛЯ РАЗЛИЧНЫХ СОЦИАЛЬНО-ДЕМОГРАФИЧЕСКИХ ГРУПП НАСЕЛЕНИЯ

**Постановление Государственного комитета Республики Беларусь по труду и социальной защите населения**

**5 августа 1994 г. N 92, г. Минск**

Во исполнение Закона Республики Беларусь "О формировании и использовании минимального потребительского бюджета" Государственный комитет Республики Беларусь по труду и социальной защите населения постановляет:

Утвердить среднедушевые минимальные потребительские бюджеты по состоянию на 1 июля 1994 года в расчете на месяц в следующих размерах для:

| | |
|---|---|
| семьи из четырех человек | 470664 руб. |
| мужчины трудоспособного возраста | 541279 руб. |
| женщины трудоспособного возраста | 536902 руб. |
| молодой семьи с двумя детьми | 454529 руб. |
| молодой семьи с одним ребенком | 484327 руб. |
| семьи пенсионера | 381551 руб. |
| мужчины-пенсионера | 447501 руб. |
| женщины-пенсионера | 435581 руб. |
| студента | 417901 руб. |
| студентки | 412930 руб. |
| девочки в возрасте до трех лет | 352134 руб. |
| мальчика в возрасте до трех лет | 348862 руб. |
| девочки в возрасте от трех до шести лет | 430385 руб. |
| мальчика в возрасте от трех до шести лет | 430918 руб. |
| девочки в возрасте от шести до четырнадцати лет | 485993 руб. |
| мальчика в возрасте от шести до четырнадцати лет | 477024 руб. |
| девушки от четырнадцати до восемнадцати лет | 544941 руб. |
| юноши от четырнадцати до восемнадцати лет | 597381 руб. |

**Первый заместитель председателя комитета А. Г. КОЗЕЛ**

Настоящие минимальные потребительские бюджеты рассчитаны в ценах, фактически сложившихся в республике в июне 1994 г., с учетом всех видов торговли (государственной, потребительской кооперации, коммерческой, колхозного рынка).

По сравнению с ранее опубликованными по состоянию на 1 апреля 1994 г. минимальные потребительские бюджеты для различных социально-демографических групп населения выросли за второй квартал текущего года в 2,12--2,39 раза. Это обусловлено ростом цен на продукты питания, предметы санитарии, гигиены, лекарства, а также одежду, белье, обувь.

В связи с этим основные статьи потребительских расходов и их удельные веса в минимальных потребительских бюджетах характеризуют следующие данные:

В процентах

| Социально-демографическме группы населения | Питание | Одежда, белье, обувь | Предм. культ.-быт назанач. | Предметы санит.-гигиен. назнач. | Оплата жилья, коммун. усл. | Быт. услуги, трансп. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| семьи из четырех человек | 66,00 | 14,8 | 7,6 | 3,4 | 4,0 | 2,1 |
| мужчины трудоспособного возраста | 57,0 | 12,8 | 13,4 | 4,5 | 8,1 | 2,5 |
| женщины трудоспособного возраста | 50,3 | 17,0 | 13,9 | 4,2 | 9,0 | 3,6 |
| молодой семьи с двумя детьми | 58,4 | 18,3 | 9,8 | 4,3 | 4,8 | 2,1 |
| молодой семьи с одним ребенком | 59,7 | 18,0 | 8,8 | 4,0 | 5,3 | 2,0 |
| семьи пенсионера | 61,1 | 15,5 | 11,0 | 4,4 | 6,3 | 1,5 |
| мужчины-пенсионера | 55,6 | 10,8 | 15,8 | 5,8 | 9,0 | 1,9 |
| женщины-пенсионера | 50,0 | 16,0 | 16,3 | 6,4 | 9,1 | 1,9 |
| студента | 63,3 | 20,2 | 3,6 | 6,4 | 1,7 | 2,3 |
| студентки | 58,1 | 25,1 | 3,5 | 5,9 | 1,5 | 3,0 |
| девочки в возрасте до трех лет | 54,9 | 20,2 | 10,2 | 4,5 | 5,4 | 2,8 |
| мальчика в возрасте до трех лет | 55,6 | 19,2 | 10,3 | 4,5 | 5,4 | 2,9 |
| девочки в возрасте от трех до шести лет | 58,3 | 17,8 | 8,4 | 3,7 | 4,4 | 2,3 |
| мальчика в возрасте от трех до шести лет | 58,2 | 17,9 | 8,3 | 3,7 | 4,4 | 2,3 |
| девочки в возрасте от шести до четырнадцати лет | 67,6 | 14,3 | 7,4 | 3,3 | 3,9 | 2,0 |
| мальчика в возрасте от шести до четырнадцати лет | 70,2 | 11,4 | 7,5 | 3,3 | 4,0 | 2,1 |
| девушки от четырнадцати до восемнадцати лет | 66,8 | 17,1 | 6,6 | 2,9 | 3,5 | 1,8 |
| юноши от четырнадцати до восемнадцати лет | 68,6 | 16,8 | 6,0 | 2,7 | 3,2 | 1,7 |

### Разъяснение о величине норматива отнесения граждан к малоимущим группам населения

Реализуя государственную политику социальной защиты, направленную на адресность оказания помощи, постановлением Госкомтруда Республики Беларусь от 28 января 1994 г. N 16 "О повышении базового норматива отнесения граждан к малоимущим группам населения" утвержден базовый нарматив отнесения граждан к находящимся по объективным причинам за чертой бедности. Он установлен в размере 60 процентов среднедушевого среднемесячного минимального потребительского бюджета семьи из четырех человек за предшествующий квартал.

Во втором квартале текущего года среднемесячный минимальный потребительский бюджет составил 366609 руб. на одного члена семьи, величина норматива отнесения граждан к малоимущим группам населения – 219965 руб. (366609 x 60:100) в месяц на одного человека.

Указанная величина применяется, начиная с августа по октябрь текущего года, для сопоставления с фактическим месячным душевым доходом семьи или отдельного гражданина, полученным во втором квартале 1994 г.

**Госкомтруд Республики Беларусь**

З КАМПЕТЭНТНЫХ КРЫНІЦ

## На 9 працуючых -- 5 пенсіянераў

Міністэрствам сацыяльнай абароны называецца зараз Міністэрства сацыяльнага забеспячэння. На пасаду міністра сацыяльнай абароны зацверджана Вольга Даргель, якая ўзначальвала Міністэрства сацыяльнага забеспячэння.

Як заўважыла на адной з сустрэч з журналістамі Вольга Браніславаўна, кола дзейнасці міністэрства пашырыцца. Але асноўным у гэтай рабоце, як і раней, застанецца пенсіённае забеспячэнне. Сёння незадаволены сваім становішчам каля 2,5 мільёнаў чалавек, якія атрымліваюць пенсіі. У ліпені сярэдняя пенсія складала ў рэспубліцы 291 тысячу рублёў.

Між тым каля 700 тысяч чалавек атрымліваюць мінімальную пенсію — 160—180 тысяч рублёў. 50 тысяч чалавек атрымліваюць так званую "сацыяльную пенсію" — палову мінімальнай (80—90 тысяч рублёў), бо яны не мелі неабходнага працоўнага стажу. Незадаволены таксама і тыя, хто меў максімальную пенсію ў ліпені — 493 тысячы рублёў. Калі ж параўноўваць памер сярэдняй зарплаты і сярэдняй пенсіі, то за 6 месяцаў бягучага года пенсія складае менш 50 працэнтаў ад зарплаты без уліку падаткаў на яе. Акрамя таго, рост пенсій пастаянна адстае ад росту зарплаты. За 6 месяцаў цэны на спажывецкія тавары і паслугі ўзраслі ў 3,6 раза, памер сярэдняй зарплаты — у 3,5 раза, а сярэдняй пенсіі — у 2,8 раза.

Такое адставанне, адзначыла міністр, адбываецца па той прычыне, што паменшыліся адлічэнні ў Фонд сацыяльнай абароны (Пенсіённы фонд). Калі ў мінулым годзе арганізацыі і прадпрыемствы адлічвалі з фонду заработнай платы 40,8 працэнта, то зараз — 35 працэнтаў. У ліпені на выплату пенсій пайшло каля 800 млрд. рублёў. Далей Вольга Браніславаўна заўважыла, што зараз немагчыма, каб пенсіянеры жылі лепш, чым працуючыя, бо ў нас на 9 чалавек, што працуюць, даводзіцца 5 пенсіянераў. І гэтыя 9 чалавек проста не ў стане "пракарміць" пенсіянераў.

Што датычыцца бліжэйшай перспектывы павышэння пенсій, то міністр сацыяльнай абароны лічыць, што трэба адыходзіць ад фактараў, уплываючых на пенсію, — мінімальнай і сярэдняй зарплат. Магчыма, у перспектыве адной з мер павышэння жыццёвага ўзроўню пенсіянераў пры вызначэнні размера мінімальнай пенсіі па ўзросту было б мэтазгодным выкарыстоўваць практычны мінімум пенсіянера як адзін з найбольш мабільных крытэрыяў ацэнкі жыццёвага ўзроўню насельніцтва. У прыватнасці, мінімальны размер пенсіі па ўзросту не павінен апускацца ніжэй рысы беднасці (цяперашні паказчык рысы беднасці — 60 працэнтаў мінімальнай зарплаты —з'яўляецца яўна заніжаным). З другога боку, лічыць Вольга Браніславаўна, дапамога павінна быць адраснай і дыферэнцыраванай. Хопіць даваць усім аднолькавую кампенсацыю. У першую чаргу трэба абараніць пенсіянераў, што атрымліваюць мінімальную пенсію, а таксама інвалідаў, якіх у нас каля 400 тысяч.

**Наш кар.**

## Да падпісчыкаў

Як мы паведамлялі ўжо, з 10 жніўня пачалася падпіска на газеты і часопісы на IV квартал гэтага года.

У каталогу рэспубліканскіх падпісных выданняў штотыднёвік "Наша доля" знайсці няцяжка: сярод падобных сабе ён самы танны -- кошт яго на 3 месяцы ўсяго 420 рублёў.

Вызначаючы гэту суму, рэдакцыя зыходзіла перш за ўсё з інтарэсаў падпісчыкаў -- інвалідаў -- самых малазабяспечаных слаёў насельніцтва. Бо калі на падаражаўшыя хлеб і малако пенсіянерам і інвалідам абяцаюць нешта даплаціць, то на газеты ніхто, зразумела, рабіць гэтага не будзе.

У любым выпадку, думаецца, той жа інвалід адшукае ў сваім сціплым бюджэце невялікую суму, каб падпісацца на "Нашу долю". У сваю чаргу, мы абяцаем, як і раней, быць для вас добрым дарадчыкам, кампетэнтным субяседнікам, цікавым спадарожнікам.

Нагадваем: наш індэкс -- 63866. Падпіска працягнецца толькі да 15 верасня. Заставайцеся з намі!

**АБОНЕМЕНТ** на газету **63866** (индекс издания)

**«Наша доля»**
(наименование издания) | Количество комплектов

на 199___ по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда ______ (почтовый индекс) ______ (адрес)

Кому ______ (фамилия, инициалы)

**ДОСТАВОЧНАЯ КАРТОЧКА**

ПВ | место | литер

на газету **63866** (индекс издания)

**«Наша доля»**
(наименование издания)

Стоимость: подписки ___ руб. ___ коп.; переадресовки ___ руб. ___ коп. | Количество комплектов

на 199___ по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда ______ (почтовый индекс) ______ (адрес)

Кому ______ (фамилия, инициалы)

# Спросите Сашу

Почему-то у нас всегда и все было каким-то вывернутым наизнанку. Хорошо, когда кто-то живет зажиточно, в достатке. Но стоит только повнимательнее присмотреться к способам достижения благополучия и сразу начинает легонько попахивать хоть маленьким, да беззаконием. Поначалу кажется, что дело в законах. На их несовершенстве «съел все зубы» нынешний Верховный Совет и, может быть, то же самое предстоит еще парочке-тройке парламентов. Пройдут годы, пока законы будут доведены до относительного совершенства,а главное, приведены в соответствие с жизнью. Она, эта жизнь, вторая причина тех плодов несовершенных законов, которые одним позволяют неплохо жить, в то время как другим остается только утешаться мыслью, что не может же быть всем хорошо.

Сашу на Комаровке знают многие. Впрочем, как и всех тех инвалидов, за которыми официально закреплены торговые места на базаре. Сами они, конечно, не торгуют. Вместо них за прилавками стоят расфуфыренные девочки, чьи манеры обращения с иным робким клиентом говорят о бессмертности того типа торгового работника, который мы вывели за последние семьдесят лет. Пренебрежительное высокомерие и откровенная грубость продавцов выглядят довольно отвратительно в государственной торговле, в частной же они вызывают брезгливое недоумение: казалось бы коммерческий интерес должен подталкивать к совсем другому обращению с клиентом. Ан, нет! Стоит такая королева за прилавком, и можно долго вопрошать и гукать о цене, пока она соблаговолит дать ответ. Если вообще соблаговолит. Дело, конечно, не в девочках. Просто заинтересовавшись проблемой подставных лиц на Комаровке, волей-неволей сталкиваешься с антуражем, сопутствующим этой проблеме. А этот антураж --девочки и товар, массово ввозимый к нам из Турции неутомимыми челночниками.

Как выяснилось, никакого отношения Саша — инвалид первой группы и хозяин торгового места -- к торговле не имеет. Его работа в свое время заключалась только в оформлении разрешения. Теперь он имеет свой законный (может быть, это слово надо взять в кавычки?) неплохой процент. Все остальное делает девочка-продавщица: продает, рассчитывается с поставщиком, бранится с клиентами, продает и покупает, если надо, валюту, хоть это и запрещено.

Сегодня многим инвалидам, скажем так, -- большинству приходится несладко. И речь даже не о том, что наше здоровое, но больное нищетой общество недостаточно гуманно относится к инвалидам. Дело в перманентно уменьшающихся материальных благах, которые общество выделяет инвалиду в виде той же пенсии. В то же время по законам расслоения общественного пирога на небольшой слой богатых и значительный слой бедных, тем же обществом открываются какие-то лазейки для немногих, куда можно юркнуть и наконец-то зажить более-менее по-человечески.

Конечно, по современным европейским меркам, не такое уж оно и большое -- Сашино благосостояние. Возможно, что в цивилизованной стране доход его был бы не меньше, но зато законнее. Иметь машину, хорошую одежду, покупать мясо и фрукты на базаре, иметь деньги на черный день, наконец, получать радость от жизни и от сознания того, что ты тоже включен в ее пусть не слишком законное течение, но благодаря этому течению ты независим (наоборот -- многие зависят от тебя) -- все это делает Сашин образ жизни довольно заманчивым для многих. Во всяком случае, практически все места на Комаровке закреплены за инвалидами, остается только пройтись по базару и удостовериться, что сами инвалиды не торгуют.

Остался неразъясненным факт, почему на Комаровке в торговых рядах нет рэкета. И это несмотря на то, что никаких «податей» Саша и такие, как Саша, не платят и «крыши» вроде бы не имеют. У Саши, по его словам, никогда не было головной боли на предмет того, что приедут какие-нибудь амбалы, потрясут, оставят без выручки, а то и без зубов. Рэкет это место обходит.

-- Я живу абсолютно не богато, — говорит Саша, -- но то, что мне положено, имею.

Что ж, действительно, ни своей настоящей коммерции, ни особняков у Саши нет. Есть небольшой, но стабильный доход. Причем не раз в месяц получение скудной зарплаты, а ежедневное похрустывание наличных, переданных из рук в руки торгующей девочкой. Не будь Комаровки с ее законно отведенными для инвалидов торговыми местами, Саша, точно так же, как многие и многие инвалиды, прозябал бы на свою пенсию. Что хорошего в том, что еще одним несчастным человеком было бы больше? Жаль только, что все не могут протиснуться на тот путь благополучия, которым так удачно воспользовался Саша.

**Л. Судник**





# Невостребованный «голос»

Президентские выборы прошли, судя по заключению Центризберкома, без серьезных нарушений и осложнений. В наше время и это уже может быть поводом для радости. Если бы не досада, что мой голос, как и голоса иных моих знакомых, тоже по состоянию здоровья не покидающих пределов квартиры, остались невостребованными.

Положим, "моего" кандидата — которого можно поддержать по всем статьям — в списке не было. Но, хотя бы в пику некоторым слишком пустоcречистым кандидатам, в первом туре проголосовать стоило. С этой целью я и попросил жену проинформировать о моем нехитром желании избирательную комиссию участка N 59. Шла уже вторая половина дня выборов, но к информации жены, по ее словам, отнеслись внимательно, данные моего местожительства внесли в соответствующий список и пообещали прийти непременно.

И, как водится, не пришли. Жена с сынишкой нарочно прибрались в комнате, даже букетик на стол поставили. Потом стояли на балконе в ожидании "кого-нибудь с красным ящиком" — пока в одном из окон второго этажа школы N 117, примерно шагах в пятидесяти от дома, ни вспыхнул свет и на стол ни посыпались бюллетени тех, кто проголосовал...

Ясно, что среди тех, чьим избирательным правом так часто пренебрегают, преобладают инвалиды. Но не станем делать на этом акцент. Затронем другую тему.

Вот-вот грядут парламентские выборы. Квоты для инвалидов и ветеранов в будущем парламенте не выделены. Придется бороться на равных с другими партиями, разве что в составе одного из блоков. В жестокой конкуренции не только программ, но и физических возможностей важным может оказаться каждый голос. Это значит, что нужен строгий контроль за тем, как обеспечивается голосование инвалидов и ветеранов на дому.

В организациях инвалидов и ветеранов немало ответственных и политически активных людей, по крайней мере по одному на каждый избирательный участок для контроля их надо найти. Возможно, стоило бы заранее составить списки желающих голосовать и представить их в участковые комиссии. Этих двух мер вполне достаточно...

Да, если кто-нибудь подумал, что уж во втором-то туре я точно должен был проголосовать, то он ошибся. И это, к сожалению, даже не удивляет.

**Анатолий Кузьмин**



# Лясныя пажары на Палессі

У апошні час усталявалася спякотнае надвор'е, таму пачасціліся лясныя пажары, якія наносяць значныя страты лясной гаспадарцы. Аб тым, як вядзецца барацьба з агнём на Гомельшчыне, —сённяшні рэпартаж.

... Верталёт МІ-2 у складзе экіпажа лётчыка-назіральніка В. А. Прэдчанкі і лётчыка У.Д. Мяланіча павольна ўзнімаецца ў паветра і бярэ курс па зададзенаму маршруту. Унізе — вузкія стужкі прасёлачных дарог, раўнюткія квадраты адбіваючай залацістым колерам збажыны ўперамежку з зялёнымі сенажацямі, буйныя лясныя масівы.

Што ні кажы, а вельмі прыемна з вышыні птушынага палёту любавацца хараством роднай зямлі. Але што гэта? Верталёт раптам робіць круты віраж, і ў полі зроку паяўляецца шлейф шэрага дыму. Праз некалькі хвілін ужо добра бачны вогненныя языкі, што паўзуць па ляснoй падсцілцы паміж дрэў.

— Вось і першая агнявая кропка,— кіўнуў Віктар Адамавіч Прэдчанка, закончыўшы перадаваць па рацыі каардынаты выяўленага ачага загарання.

Верталёт мяняе курс. І зноў праз некаторы час перад намі ў некалькіх месцах — слупы дыму. Зніжаемся. Едкі дым прабіваецца ў кабіну, непрыемна казыча нос. А калі закончылі агляд небяспечнага месца ў гушчы вялікага зялёнага масіва і па рацыі былі перададзены дакладныя каардынаты, зноў — палёт па курсу, пакуль у лесе непадалёку ад в. Міхалкаўская Рудня не заўважылі ачаг агню.

Праз лічаныя хвіліны верталёт плаўна апускаецца на зямлю, і з кабіны спрытна выскокваюць маладыя пажарныя-дэсантнікі Сяргей Макееў і Павел Аўдзей з ранцавым лясным вогнетушыцелем. А гэта значыць, што выяўлены ачаг пажару будзе хутка ліквідаваны, як і ўсе астатнія, у той ліпеньскі спякотны дзень...

Мазырская авіягрупа патрулюе на тэрыторыі 11-ці лясгасаў. А гэта — 1 мільён 49 тысяч гектараў лесу. Сюды ўваходзіць і тэрыторыя Палескага дзяржаўнага заалагічнага запаведніка. Пра гэта расказвае старшы лётчык-назіральнік авіягрупы У. А. Шыцянкоў:

— За ліпень, — удакладняе ён, — намі выяўлена звыш 80 лясных пажараў, якімі пашкоджана плошча звыш 2,5 гектараў. А з пачатку сезона сваімі ўласнымі сіламі мы патушылі больш як 70 лясных пажараў на васьмі гектарах. У гэтым немалая заслуга інструктара групы Анатоля Бандарэнкі, пажарных-дэсантнікаў Анатоля Лазароўскага, Паўла Аўдзея, старшага інструктара Беларускай авіябазы Мікалая Рыгоравіча Ціханава. Карыстаючыся выпадкам, хачу звярнуцца да насельніцтва Мазыршчыны і Гомельшчыны: пры наведванні лясоў захоўвайце правілы бяспекі.

Помніце: лес — наша багацце, яго трэба берагчы!

**Ю. Герасіменка, рэдактар Мазырскага гарадскога радыё**

# Курапаты: боль і памяць

Курапаты — месца нашай балючай памяці і спагады. Больш за паўстагоддзя таму ў гэтым урочышчы пад Мінскам грымелі стрэлы катаў з пагонамі НКУС. Бязвінна забітыя хаваліся ў пясчаныя ямы і разам з імі хавалася праўда аб таталітарным рэжыме.

Сёння ў Курапатах пастаўлены памятныя крыжы, вернікі ўсіх канцэсій праводзяць тут жалобныя набажэнствы. Аб'яўлены конкурс на лепшы праект комплекса памяці ахвярам сталіншчыны.

**Яўген Пясецкі**

*На здымках:* тут грымелі стрэлы катаў; гэтая жанчына дапамагае збіраць сродкі на помнікі ахвярам; набажэнства на месцы масавых рэпрэсій.







## В МИРЕ ИНТЕРЕСНОГО

### *Князь в Лондоне*

Многие знают: в Киеве есть памятник князю Киевской Руси святому Владимиру. Но немногим известно: князю-крестителю памятник установлен и в Лондоне.

Он имеет пять метров высоты, выполнен из бронзы и гранита. В одной руке Владимир держит крест, а другой опирается на щит. На постаменте — надпись латинскими буквами "Святой Владимир".

Появился он два года назад в честь 1000-летия крещения Руси, сооружен на деньги украинцев, живущих в Великобритании. Автор его тоже украинец — член Канадской академии искусств Леонид Молодожанин. Надо добавить, что находится памятник перед зданием украинского религиозного общества "Святая София".

**"Труд", 1990 год**

### *Нищий миллионер*

Абдул Гамид был своего рода достопримечательностью квартала Хамаяд в турецком городе Самсун. Он, например, очень гордился, что был тезкой последнего турецкого султана Абдула Гамида. Сколько помнят жители, нищий Абдул Гамид (а он всю жизнь был таковым) ни одного дня не работал и почти все время проводил на городском базаре.

После его смерти муниципальные служащие пришли убрать каморку покойного. Их поразил ее убогий вид. Но когда взялись за старую перину, то оказалось — вся она набита новенькими банкнотами достоинством 500 и 750 лир, всего на 1 миллион; кроме того, еще 125 тысяч американских долларов.

**"Чикаго сан" (США)**

### *Попугаи в поводырях*

Американский орнитолог Рей Борнан открыл школу, где обучает попугаев, чтобы сделать из них поводырей для слепых.

Орнитолог обучил птиц произносить команды "стой", "поверни налево", "осторожно" и другие. Он учел, что попугаи лучше собак различают красный, желтый и зеленый цвета уличных светофоров. К тому же они не отвлекаются на кошек, мальчишек и голубей. И еще — птицы дольше живут, меньше едят, чем четвероногие поводыри. Это немаловажно для слепых пенсионеров.

**"Жизнь животных" (Франция)**

**Собрал и подготовил А. Святкин**

## ВЕСТИ

### Заложен первый камень

На днях в одном из микрорайонов столицы состоялась торжественная церемония закладки первого "камня" в строительство дома престарелых, которое осуществляет миссия евангельских христиан-баптистов "Дабрачыннасць". Комплекс, нулевой цикл которого уже возведен, кроме того, объединит "под одной крышей" семинарию, радиостудию, церковь. В доме престарелых найдут приют сто одиноких стариков. Обслуживать их будут верующие церкви "Вифлеем", которые окажут в трудную минуту и духовную поддержку.

### К 2030 году население Земли удвоится

Всемирный банк опубликовал доклад, согласно которому к 2030 году население Земли увеличится вдвое, причем наиболее интенсивный рост будет отмечен в Африке. Пятерку самых "быстро размножающихся" стран составляют Оман, Нигерия, Йемен, Эфиопия и Ангола. Население пойдет на убыль в Германии, Италии, Венгрии, Испании и Японии.

## ЧТО ГОВОРЯТ, ЧТО ПИШУТ...

### Свадебные обычаи Западной Европы

Большинство свадебных обычаев существовало еще в дохристианские времена. Они должны были принести молодым счастье и одновременно оградить их от несчастий. И это суеверие сохранилось у людей по сей день.

Во всяком случае, "главное, чтобы это доставляло удовольствие". Итак...

В предсвадебный вечер стоит шум и грохот: гости (в том числе и неприглашенные) бьют перед дверью в дом новобрачных принесенную с собой посуду. На это есть две причины. Во-первых, осколки приносят счастье, а во-вторых, шум изгоняет злых духов. Жених и невеста убирают осколки вместе.

В Италии есть один очень своеобразный обычай под названием "Серро". Как символ сделанного предложения жених ставит вечером перед дверью квартиры "своей" девушки деревянную колоду. Если она (девушка, разумеется, а не колода) принимает предложение, то она забирает деревяшку в дом, а если отвергает, то откатывает ее на середину улицы. В том случае, когда итальянская невеста в связи со свадьбой покидает родительский дом, она разражается рыданиями "fa il pianto". Причем не столько из-за того, что покидает родных, сколько из-за того, что этого требует обычай.

Свою бережливость и экономность докажет та невеста, которая заплатит за свои свадебные туфельки накопленными средствами.

Свадебный кортеж всегда сопровождается шумом. Ранее это были выстрелы из ружья, а сегодня — автомобильные сигналы, которые должны изгонять злых духов.

Злые демоны проникают в тело через отверстия, полагали древние германцы. И чтобы они тайком не запрыгнули через дырочки в носу, невеста закрывала свое лицо фатой. Фата считалась также символом девичества, поэтому ее снимали к концу свадьбы.

Цветы и рис — символы плодовитости и благословления на детей — бросают к ногам свежеиспеченной молодой пары, когда они покидают церковь. В некоторых областях бросают также изюм, орехи или леденцы и даже башмаки (!).

После загса или церкви молодым неожиданно перегораживает путь ствол дерева. Очистить от него дорогу они должны совместными усилиями. Это символ того, что таким образом будут преодолеваться все проблемы.

Табличку "Just Married" ("Только что поженились") и волочащиеся консервные банки знает каждый по многочисленным американским фильмам. Этот грохот также должен изгнать последних злых духов.

Без похищения невесты не может обойтись ни одна свадьба. Друзья утаскивают невесту во время празднования в одну из ближайших кафешек выпить бокал шампанского. Если жених ничего не заметил, то ему вручают для танца задекорированную под невесту метлу. А затем свидетель или сам жених должен искать невесту и платить выкуп.

Ровно в полночь все незамужние женщины вместе с невестой собираются для танца с фатой. Та, кому невеста с закрытыми глазами наденет фату, выйдет замуж следующей (во всяком случае, так говорят).

Чтобы гибельные духи не заставили невесту споткнуться, жених должен перенести ее через порог их общего дома.

**( по материалам зарубежной печати)**

ПАРТРЭТ СУЧАСНІКА

# З торбай за плячыма

Калі б у якога-небудзь мастака ўзнікла жаданне графічна адлюстраваць сімвал нашай рынкавай эпохі, я параіў бы яму намаляваць торбу — любую. Не мае значэння, якіх формаў і прызначэнняў, але абавязкова — надта вялікую. Нават вялізную. І каб каля яе стаяў маленькі чалавек, зусім малюпасенькі. Ну проста маляўка. Менавіта так: чалавек каля торбы, або пад яе цяжарам сагнуты ў крук.

Торба сёння — вобраз нашага жыцця. Мы сталі рабамі сваіх баулаў, кофраў, пласцікавых мяхоў і мяшочкаў, аздобленых ручкамі, лямкамі, кішэнямі і зашпількамі "маланка". Без іх —ні кроку. Ідучы на працу, мы звыкла запіхваем торбачку ў кішэню паліто ці курткі, чапляем на плячо або бярэм у руку...

Пазіраю з свайго вартаўніцкага паста праз акно выканкама на вуліцу.

Вось ступае па тратуары, згорбіўшыся пад цяжарам дзвюх вялізных торбаў і натыкаючыся на прахожых, нейкая прыезджая асоба. Відаць, нешта здабыла і некуды спяшаецца... Дзве дзяўчынкі гуляюць па вуліцы, памахваючы ў руках пласцікавымі пакетамі з іншаземнай рэкламай.

Бабулька тупае па асфальце, цягне за сабою закарэлы мяшок з бульбай. Прамільгнулі два спартыўнага выгляду хлопцы. У кожнага на плячах целіпаецца кафр — прэс кішэні, "маланкі", кнопкі, наляпаныя нібы ластаўчыны гнёзды пад страхою хаты. Чым напханы, не трэба здагадвацца — з торбаў на белы свет выглядаюць і паблiскваюць на сонцы галоўкі "Пшанічнай". Торбы стракатыя, як лета ў джунглях, і цёмныя, снятлівыя, як восеньскі дождж. Процьма торбаў — вось што такое сёння нашыя вуліцы і магазіны. Пра метро і не кажу — па эскалатары не пралезеш: зачэпішся абавязкова за нечыю торбу. Адпаведна ў вагонах стала цясней — торба выціскае пасажыра.

А вось чамаданаў чамусьці паменшала. Кейсы — гэтыя яшчэ трымаюць аўтарытэт, хоць і не такі, які ў іх быў дзесяць гадоў назад: згубілі прыцягальнасць навізны. Другая справа —партфель. Гэты выхітрыў, не капітуляваў перад торбачнай экспансіяй, стаў разумна сябе паводзіць, незаўважна перабраўся ў сямейства "сумчатых" — прамысловасць, зразумеўшы, што да чаго, ужо выпускае партфелі з почапкаю: зачапіў за плячо і ідзі.



Карацей, факт ёсць факт: сёння па частцы персанальнай тары першае месца — за сямействам "сумчатых". І, канстатаваўшы гэта, паспрабуем вытлумачыць, што стала гэтаму прычынай. Чаму торба, гэты сімвал эпохі грамадзянскай вайны, праз больш чым семдзесят гадоў выраашыла ашчасліваць сабою зусім іншую эпоху — цяперашнюю. Дзе вытокі гэтага рэнесанса? Там жа, дзе былі і ў дваццатыя гады — у эканоміцы. Канешне, мода таксама мае вагу, але галоўная прычына: наша цяперашняе жыццё. Яно і патрабуе іншай, асабістай тары.

Калі торба ці мех на плячы або ў руках амаль у кожнага з нас — значыцца, эканоміка дрэнна працуе або зусім не працуе, і патрэбная даступная рэч ці харч не чакае цябе ў магазіне, што побач. Трэба пашастаць па горадзе, каб знайсці нешта патрэбнае табе. Але не з голымі ж рукамі бегаць! На паляванні за рэччу зручная тара значыць не менш, чым поўная кішэня грошай.

— Бач, куды забег, — запярэчыць мне скептычна настроены чытач, які не раз ездзіў у далёкія краіны. — І ў квітнеючых краінах людзі з торбамі ходзяць.

Згодзен, ходзяць. Але толькі з адной розніцай: мы заходзім з торбаю ў магазін, а там — выходзяць з торбаю з магазіна. Купіў нешта, нават нейкую дробязь, а табе гэтую дробязь без платы паклалі ў прыгожую сумачку: калі ласка нясіце дамоў, а там, калі яна не патрэбна, можаце выкінуць. У нас жа торба-сумка выконвае функцыю аўтафургона, які павінен быў бы падвезці бліжэй да вашага дома ўсё, што неабходна для нармальнага жыцця — ад хлеба да туалетнай паперы.

Вось і шастаюць людзі па гарадах і вёсках з торбамі нахрыст, спадзеючыся толькі на свае рукі, ногі і плечы, якія павінны зацягнуць ў дом тыя сотні кілаграмаў тавару, без якіх яму аніяк нельга абысціся і якія складаюць змест вядомай навуцы у спажывецкай краіне. Я ўпэўнены, што калі параўнаць вагу гэтай, амаль міфічнай "карзіны" з фантастычнай колькасцю торбаў-сумак, якія знаходзяцца ва ўжытку ў насельніцтва, дык можна было б вывесці нейкі новы эканамічны закон. Скажам, такі: колькасць торбаў, якія знаходзяцца на руках у насельніцтва, зваротна прапарцыянальна ўзроўню яго жыцця.

Зазірніце ў торбу і пацікаўцеся, што нясуць і цягнуць —паўсядзённы харч і тавар для свайго бядотнага існавання. І гэтак кожны дзень. І не толькі трэба прыцягнуць — спярша трэба ўсё гэта недзе здабыць, і па магчымасці танней. І тут трэба, добра упрэўшы, пабегаць па горадзе. З торбаю, безумоўна.

Прадбачу контраргумент: а хіба раней, да здзічэлага рынку і "прыхватызацыі", мы не бегалі па магазінах у пошуках нешта купіць? Бегалі. І ў чэргах стаялі. Але тавар, заўважце, прыязджаў да нас не ў фургоне спекулянта-перакупшчыка і не ў мяшку "чаўнака", і, галоўнае, была ў нас упэўненасць і магчымасць заўсёды купіць паўсядзённы, патрэбны для жыцця прадукт. Сёння ж такой упэўненасці, ды і магчымасці ў многіх ужо няма.

Ніяк нельга абысці ўвагай і торбы нашых "чаўнакоў" — гэтых карабейнікаў XX стагоддзя, якія разносяць і развозяць па гарадах і вёсках Айчыны польскія, кітайскія, турэцкія тавары. Торба "чаўнака" адрозніваецца ад усіх іншых сваім памерам: звычайна гэта збудаванне з пластыка і нейлона метровай вышыні. У такіх едуць, плывуць, ляцяць да нас красоўкі, скуранкі, джынсы.

Вось ужо якое дзесяцігоддзе торба, нават калі яна ў руцэ, гарбаціць нашыя спіны, крывіць паходку, робіць нас касабокімі, непаваротлівымі і марлуднымі. Яшчэ горш, калі яна калечыць не толькі нашую постаць, але і душу, яна пасяляе ў нас неасэнсаваны непакой: як яе напоўніць? Калі ты з торбаю, значыцца, павінен нешта прыхапіць, нават калі табе зараз нічога не трэба. Ёсць у гэтай тары і нейкія цэнтры прыцягнення, нейкія зоны, дзе яна адчувае сябе сапраўдным ганаровым гаспадаром. Гэта, безумоўна, мінская Камароўка і стадыён "Дынама". Торбы, якія прыехалі, прыляцелі сюды з усіх куткоў нашай былой неабдымнай Радзімы, а таксама з далёкага замежжа, аддаюць тут сваё змесціва іншым торбам. А тыя ў сваю чаргу паедуць у вёскі, увасабляючы ў жыццё формулу вялікага Адама Сміта: "Тавар — грошы — тавар".

... Што ж тычыцца сімвала нашай рынкавай эпохі, дык ім мог бы быць і прадстаўнік шматлікага сямейства сумчатых. Як самі здагадваецеся... кенгуру — і торба заўсёды пры ім, і цягае на сабе кожны дзень, пастаянна, і прадаўжэнне роду магчыма толькі дзякуючы асабістай торбе. Ды і жывёліна, зноў жа, амаль двуногая. Горш, канешне, што мы трохі абагналі прыроду, узнагародзіўшы торбаю асобы не толькі жаночага, але і мужчынскага полу. Але што зробіш? Гэта ўжо ад нас не залежыць. Галоўнае — "адпавядае" цяперашняму вобразу краіны "сумчатых".

**М. Капыловіч**

ПОЛЕЗНО ЗНАТЬ

# Нуклеотиды — "гости" кишечника

Наши люди постепенно узнают, что возникла прямая угроза накопления в организме так называемых нуклеотидов, особенно у людей в зонах, прилегающих к Чернобылю, и в ряде других мест. В то же время есть уже большой мировой опыт борьбы против облучения, о котором, однако, мало чего известно нашему народу. Советские ученые распространяли лживое мнение, будто малые (допустимые) дозы безвредны. За рубежом же считают, что безвредных доз облучения не существует. Вот и выходит, что наши ученые... умней? Однако это теперь квалифицируется как "научный" обман народа!

Известно, что радиоактивные вещества накапливаются во всех органах человека, но в одних больше, а в других меньше. Попадая в кишечник, эти "гости" надолго задерживаются там. И, если не принять мер, они проникают в другие органы, оседая в них на постоянное "жительство".

Для удаления радиоактивных веществ из кишечника рекомендуется употреблять следующие продукты: морскую капусту, отруби (2—3 столовые ложки, распаренные в кипятке, принимать за полчаса перед едой), листья лесного папоротника (в свежем виде добавлять в салаты, а для зимы высушивать, перемалывать в кофемолке, хранить в стеклянной посуде с крышкой и во время обеда добавлять 1 чайную ложку в первое блюдо), головки красного клевера (поступать, как и с папоротником).

Очень хорошо связывают нуклеотиды также продукты, содержащие пектины: яблоки, свекла, лекарственные растения (о них подробно говорится в соответствующей литературе). При отравлении малыми дозами облучения помогают все плоды, содержащие косточки. Это: вишня, слива, черешня, абрикосы, персики, черемуха, облепиха, виноград, калина. Очищение кишечника достигается употреблением достаточного количества овощей, жидкости и умеренно посоленной пищи.

**Иван Шпадарук**

ЗАМЕТКИ ПО ПОВОДУ

# Плывут по озеру "утята"

В летнюю пору,в теплые солнечные дни, живописные берега озера Бобрица неизменно привлекают отдыхающих. Особенно многолюдно становится на уютном пляже Лепельского военного санатория, куда вместе с защитниками нашего Отечества прибывают члены их семей, инвалиды войны и дети.

В один из тех дней на санаторной лежачке в тени под тентом расположился седой, плотного сложения участник войны с рубцами давних ранений. Прежде всего он отметил, что в былые времена здесь никогда еще не скапливалось так много детворы. Они шумно барахтались невдалеке от берега, ныряли и плавали.

Одна из девчушек — это была одиннадцатилетняя Алла Кравцова из СШ N 1 города Дзержинска — тоскливо смотрела на ребятишек.

— Ты чего не плаваешь, малышка? — спросил ветеран.

За нее ответил дедушка, тоже, видать, герой войны:

— Куда ей! Тонула она, едва спасли. Теперь вот воды боится!

Тонула... такая славная девчушка. Жаль стало ее ветерану, который, как стало известно, в далекой армейской юности своей обучил плаванию едва ли не целый полк молодых солдат-новобранцев, и это пригодилось им и при форсировании водных рубежей, и в жизни. Свои методические навыки, похоже, ветеран не утратил и теперь.

— Хочешь, научу плавать? — спросил он Аллу.

Она повертела головой: так сильно боялась воды.

— А я хочу! — прозвенел голос ее младшей сестренки Ирочки, такой же синеглазой и статной.

Первое занятие с нею началось с самого начала — с "поплавка", того самого упражнения, которое дает возможность отработать дыхание, а заодно преодолеть и водобоязнь.

На четвертый день девятилетняя Ира уже держалась на воде и даже преодолевала в скольжении, без доски, небольшие расстояния. Она была попросту в восторге от такого достижения:

— Вернусь домой и маме скажу: плавать я научилась!

На следующий день тренер-ветеран, как обычно, пришел на свое излюбленное место. Разделся до плавок, затем пристроил на шесточке картонку с надписью: "Обучаю детей плаванию. Бесплатно".

Желающих овладеть плаванием оказалось свыше дюжины: Света и Таня, Витя и Юля, Женя Ворошуха со своей сестренкой Олей из минской СШ N 174... Методически последовательно осваивая упражнения, они шаг за шагом продвигались к цели.

Тогда-то, глядя на них, решилась подойти к тренеру и Алла. Ученицей она оказалась усердной, способной. Когда проплыла первые в своей жизни метры, радость ее была беспредельной.

— Теперь никакая глубина мне не страшна!

До конца своего пребывания в санатории мальчишки и девчонки не просто барахтались в воде, а закрепляли свои навыки.

Перед отъездом Ирочка озадаченно спросила своего учителя:

— Скажите, плавать я не разучусь?

— Даже не представляю, как это можно. Ходить-то ты не разучилась? И плавать не разучишься. Никогда!

Глаза девчушки осветились радостным светом.

Тех из мальчишек и девчонок, кто научился плавать, тренер ласково назвал "утятами", а те, у кого не хватило на это ни воли, ни терпения, так и остались "утюжками".

Улыбки детей были лучшей наградой ветерану за этот труд. Однако назвать свое имя он отказался:

— Это неважно. Главное — "утята" поплыли!

**Б. Михайлов**

# АКРЫЛЕННЕ

## Літаратурны выпуск «Нашай долі»

*Авяр'ян Дзеружынскі*

## Спеў мудрай душы

*Старэйшаму беларускаму паэту — песенніку, аўтару дзесятка паэтычных зборнікаў і кніжак вершаў для дзяцей Авяр'яну Сафонавічу Дзеружынскаму нядаўна споўнілася 75 год. Найбольшую папулярнасць і вядомасць яму прынеслі песні "Мяцеліца", "Радзілася я ў Беларусі", "Я выйду за аколіцу", "Песня аб Мінску" ды іншыя.*

*Плённа працуе паэт і сёння. Толькі што ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў новы яго зборнік "Веснавей", які з поўным правам можна было б назваць спеўнікам — ён цалкам складаецца з тэкстаў новых песень, сумных і бадзёрых, мудрых і жартоўных. Словам, для кампазітараў — гэта сапраўдны клад.*

*Сёння мы змяшчаем некалькі вершаў нашага шаноўнага юбіляра і далучаемся да віншаванняў, жадаючы "аксакалу" — песняру доўгіх год жыцця і творчасці.*

### ДЗЕ ТЫ, МОЙ ЖАЎРУК?

*Песні жавараначка*
*Штосьці не чуваць,*
*Без яе і нівачка*
*Стала сумаваць.*

*Дзе ты, мой жаўрук,*
*Дзе твой галасок?*
*Песню праспявай, —*
*Просіць каласок.*

*А бывала раніцай*
*Птушка зазвініць —*
*Сонца заўсміхаецца,*
*Слухае, глядзіць.*

*І сумуе золакам*
*Бледны маладзік —*
*Твой жаўрук над полейкам*
*Праспяваў і знік.*

*Дзе ты, мой жаўрук,*
*Дзе твой галасок?*
*Песню праспявай, —*
*Просіць каласок.*

### ХТО ЯНА?

*Адна, ва ўсім свеце адна,*
*А хто, прыгажуня, яна?*
*А хто? Пакуль што не скажу,*
*Гляджу на яе і гляджу.*

*Сваёю чаруе касой,*
*Блішчыць, серабрыцца расой,*
*Адметна красой завушніц,*
*Ірдзее святлом зараніц.*

*І вабіць яшчэ белізной,*
*Мне гутарыць хочацца з ёй*
*І стан тонкі, стройны абняць,*
*І марыць, і побач стаяць.*

*Ёй песні пяюць салаўі*
*У надрэчным вясновым гаі...*
*Скажу, не ўтаю, хто яна —*
*Бярозка мая ля акна.*

### ПАКУЛЬ КАХАЮ — Я ЖЫВУ

*Ільюцца кропелькі расінкі*
*У тумане раннім на траву.*
*Жыву я ў гэтыя часінкі,*
*Пакуль кахаю — я жыву.*

*І сэрца б'ецца роўна, роўна,*
*І пульс ягоны не спадзе.*
*Мяне з харошаю, чароўнай*
*Дарога светлая вядзе.*

*І шлях не блізкі, а далёкі,*
*І нам сумесна не прыстаць.*
*Над намі белыя аблокі,*
*Як гусі белыя ляцяць.*

*І сонца свеціць, сонца грэе*
*І лашчыць промнямі траву,*
*Пакуль кахаю — не старэю,*
*Пакуль кахаю — я жыву.*

*Мария Арцименок*

## Мистер Икс

*Аромат, аромат розы чайной...*
*Катит волны неслышно Двина.*
*Мистер Икс, наша встреча случайна*
*В этот час на мосту Блохина.*

*Но Вы вечно куда-то спешите,*
*Как пришелец далекий с небес.*
*Как мне Вас разгадать, подскажите?*
*Кто Вы, ангел-спаситель иль бес?*

*Кружит быстрых стрижей эскадрилья.*
*Кто-то песню негромко поет.*
*Мистер Икс, подарите мне крылья,*
*Чтоб душа ощутила полет.*

*С яблонь цвет, будто снег в новолунье,*
*Опадает на водную гладь.*
*А мечта, как девчонка — шалунья,*
*Убегает, ее не догнать.*

*Мистер Икс, я с рассветом уеду,*
*Увезу синеву Ваших глаз.*
*И дождинки, как струны, по следу*
*Напоют мне сонеты о Вас.*

## Белая акация

*Прогоню обиды прочь.*
*Так тесна их клетка!*
*Отворю окошко в ночь,*
*Где белеет ветка.*

*Как нежны ее цветы,*
*Как прекрасна грация!*
*Отчего ж печальна ты,*
*Белая акация?*

*Ранним утром расцвела,*
*Под дождем умылась.*
*Ах, сердечные дела —*
*В кипарис влюбилась!*

*Ну а он такой гордец!*
*И слова — с морозом...*
*Сколько он разбил сердец*
*Лилиям и розам!*

*Видно стройный кипарис*
*Вьюга не хлестала.*
*Свысока он смотрит вниз,*
*Будто с пьедестала.*

*Впервые в "Нашей доле"*

*У всех этих трех авторов, которых объединяет страшный недуг, сегодня настоящий праздник. Название ему — литературный дебют. И хотя возраст у них самый разный (Ивану Ивановичу Шумскому скоро семьдесят, а Олег Стеринович и Дмитрий Волынец еще очень молоды), творческого опыта, судя по всему, им одинаково недостает. Что ж, зато многое, надеемся, еще впереди. Успехов им!*

*Иван Шумский*

## Письмо сыну

*Дождь осенний стучится по крышам,*
*Скучно вечером, грустно одной.*
*Мать седая письмо сыну пишет:*
*"Что ж не пишешь ты мне, мой родной?*
*Ты не думай, что денежек жду я.*
*Нет, сынок, не о том моя грусть...*
*Ты их трать на семью молодую.*
*Ну а я... как-нибудь обойдусь.*
*Я невестку в глаза не видала,*
*Про внучат знаю я стороной...*
*Так какая тебе я родная?*
*Для меня ж ты мой самый родной!*
*Я храню на стене два портрета —*
*Два родных и похожих лица...*
*Как была б моя старость согрета,*
*Если б сердцем пошел ты в отца!.."*

**д. Озерщина,**
**Речицкий район**

*Олег Стеринович*

## Любимой

*В мерцающей дали закат догорает,*
*В темнеющем небе восходит луна.*
*Уставшая жизнь до утра засыпает.*
*Лишь мне одному в эту ночь не до сна.*

*Не хочется спать, когда сердце проснулось,*
*Не хочется верить, что жил не любя.*
*Нежданное счастье лучом улыбнулось*
*Любви и надежды — быть возле тебя.*

*Не жалко отдать свою жизнь для любимой,*
*Не страшно сгореть за минуту дотла...*
*Чтоб в эту минуту была ты счастливой,*
*Чтоб ласки хватало тебе и тепла!*

*Звезда моей жизни, гори бесконечно!*
*Но вдруг злая туча тебя заслонит —*
*Я также угасну, сгорая навечно,*
*И только любовь никогда не сгорит.*

*И будет блуждать в одинокой печали,*
*Надеясь, что вдруг в неразгаданной мгле*
*Звездой засверкает в неведомых далях,*
*Которую помнят еще на Земле.*

**д. Калиты,**
**Браславский район**

*Дмитрий Волынец*

## Пора любви

*Скоро в роще разольется*
*Голосистый соловей.*
*По лугу опять пройдется*
*Парень с девушкой своей.*

*А пора-то необычна,*
*И с другою не сравнить.*
*У нее своя привычка —*
*Все живое веселить.*

*Но дождусь ли я привета?*
*Ведь о чем ни говори,*
*А весна — начало лета.*
*И еще — пора любви.*

**г. Минск**

*Аляксей Каўко*

## СКАРГА

У рэдакцыю зайшоў стары. Ён быў у лінялым дажджавіку і насунутай да вачэй вушанцы. Па заляпаных граззю гумавых ботах, па змрочным выглядзе чалавека не цяжка здагадацца, што ён дабіраўся да райцэнтра пешкі, пратэпаў па восеньскай бездаражы не адзін кіламетр.

— Скажы, галубка, дзе тут будзе Несцерка? — звярнуўся стары да Лены Гулькінай, нашага карэктара, якая першай трапіла яму на вочы.

Даказваць, што ніякага Несцеркі ў рэдакцыі няма, што ад імя гэтага казачнага героя выступаюць амаль усе супрацоўнікі газеты, Гулькіна палічыла дарэмнай тратай часу і прывяла наведвальніка да мяне.

— Дык вы і будзеце Несцерка? — запытаўся ён, крытычна аглядаючы маю не вельмі самавітую постаць.

Я кідаю злосны позірк на Гулькіну, спыняю тэрміновую работу над перадавым артыкулам аб сацыяльнай перабудове вёскі і ў сваю чаргу пытаюся:

— А што вы хацелі?

— Ды я вось тут напісаў, — стары запускае агрубелую руку ў кішэню, дастае згорнутую паперку і працягвае мне:

— Прачытайце. Можа трэба яшчэ што дадаць.

Углядаюся ў выведзеныя няўпэўненай рукой радкі, чытаю ўслых:

"Я, ніжэй падпісаны, Андрэй Сымонавіч Дзяцел з вёскі Старыя Бабры сапшчаю, што 27 юня ў нашым клубе не было танцаў, хаця аб'ява вісела..."

Адрываюся ад ліста, гляджу на зграбленую фігуру старога, на яго зморшчаны твар: "Можа не тую паперку дастаў з кішэні?" Але ён маўчыць і я чытаю далей. Аказваецца, аб'яўленых танцаў і ў ліпені не было, а ў апошнюю нядзелю жнівня загадчыца клуба М. І. Булкіна наогул павесіла на дзверы замок і пайшла з бабамі ў лес па грыбы...

— Усё гэта абуральна і, вядома ж, заслугоўвае крытыкі, —гавару я, дачытаўшы ліст, — але, даруйце, мне не зусім зразумела, чаму менавіта вы... Хіба для вас гэта так важна? Вы што, на танцы ходзіце?

— Што ты, мілы чалавек? Я і ў маладосці не вельмі кідаўся ў тыя танцы. А вось што гэта важна для мяне — святая праўда.

Стары на момант задумваецца, цяжка ўздыхае і нетаропка вядзе расказ:

— Тут такі клопат... Жывем, значыцца, мы са сваёй старой адны ў хаце. Гадоў ужо дзесяць, калі не болей. Дзеці (іх пяцёра ў нас) даўно разляцеліся па свеце — мала хто цяпер трымаецца за бацькаўшчыну. А ў нас жа, як ні кажы, гаспадарка. Калі вам даводзілася бываць у Старых Баббрах, дык можа бачылі мой двор з краю, каля самай рэчкі. Хата яшчэ добрая, шыферам крытая, з блакітнымі ліштвамі, садок пры ёй, агарод — усё як у людзей. А правіць гэтай гаспадаркай няма каму, сіла не тая... Праўда, сёлетняй вясной мы ўзрадаваліся — унучка прыехала, Марынка. Гэта ад старэйшай дачкі — Вольгі. Не пашанцавала Вользе —выйшла замуж за нейкага ветрагона, трое дзяцей прыдбалі, а ладу няма, зарплату мужык дамоў не прыносіць, да капейкі прапівае... Я пісаў ужо, каб кідала яго і прыязджала з дзецьмі да нас. Дык не хоча: можа саромеецца, а можа яшчэ спадзяецца, што гэты абармот за розум возьмецца. А ўнучка харошая —паслухмяная, да працы здатная і выглядам Бог не пакрыўдзіў. Мы са старой прыкідвалі — пажыве ў нас, абвыкнецца, а там, глядзіш, і замуж выйдзе — хлопцы ў сяле ёсць. Думаем, нас на старасці будзе каму дагледзець і, зноў жа, гатовая гаспадарка маладым дастанецца. Гэта мы прыкідвалі... А яна прыходзіць у суботу вечарам з вуліцы невясёлая нейкая. "Што гэта ты, Марынка, не ў гуморы сёння?" — пытаюся. — "Ай, дзядуля, мусіць паеду я ў горад, — адказвае. — Тут ад суму можна памерці... Сёння субота, а на клубе — замок, ні музыкі, ні танцаў..."

Вось як яно ўсё абарочваецца. А вы пытаеце, ці важна гэта для мяне. Уся надзея на вас...

Задаволены маім абяцаннем, што газета пакрытыкуе М. І. Булкіну, дзед заспяшаўся:

— Трэба ісці. Можа якая спадарожная машына трапіцца...

Ён выходзіць, а я кідаю ў скрынку для смецця свой перадавы артыкул і бяруся за дзедаву скаргу.

